*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 7(167) ◈ 16 лютага 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.



## ПОСТУП ТЫДНЯ

***У ДРУКУ ЗМЕШЧАНА ЗАЯВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, у якой, у прыватнасці, Прэзідыум Вярхоўнага Савета заяўляе «аб сваёй цвёрдай рашучасці дабіцца на бягучай сесіі падтрымкі народнымі дэпутатамі прапанаваемых мер па ўмацаванні рэформ у сферы дзяржаўнага будаўніцтва, прыняцця новай Канстытуцыі, правядзення ў першым паўгоддзі 1994 года ўсенародных выбараў кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады, у другім паўгоддзі — выбараў у Вярхоўны Савет, у сакавіку 1995 года — выбараў у мясцовыя Саветы народных дэпутатаў». Дай то Бог!*

**ПРЭЗІДЫУМАМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПРЫНЯТА РАШЭННЕ** зацвердзіць 23 лютага як Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Беларусі.

***СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЗНОВІЦЬ СВАЮ РАБОТУ 22 ЛЮТАГА.***

**У САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ САВЕТА МІЖПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ ДЗЯРЖАЎ — УДЗЕЛЬНІЦ САДРУЖНАСЦІ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ.** У ім прыняла ўдзел дэлегацыя Беларусі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам. Старшынёй Міжпарламенцкай Асамблеі тайным галасаваннем выбраны старшыня Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі Уладзімір Шумейка.

***ДЗЯРЖАЎНЫ МЫТНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАЦВЕРДЗІЎ** палажэнне аб парадку збірання збораў за мытнае афармленне тавараў. Згодна з палажэннем зборы збіраюцца незалежна ад формы дэкларавання тавараў з юрыдычных і фізічных асоб, якія прад'яўляюць рэчы да мытнага афармлення.*

**У МЕНСКУ ЎЗНІК АРГКАМІТЭТ ПА СТВАРЭННІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ ЯШЧЭ АДНОЙ ПАЛІТЫЧНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ** — Беларускай нацыянальнай партыі (БНП). У звароце партыі да грамадзян гаворыцца: «Не трэба даваць іншаземцам любых нацый прыніжаць нас — усе яны толькі госці ў нашым агульным доме, Беларусі». Сакратаром аргкамітэта БНП з'яўляецца афіцэр-адстаўнік Мікола Курак.

***ЗА МІНУЛЫ ГОД КОЛЬКАСЦЬ ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ, ЯКІЯ ПАЖАДАЛІ ВЫЕХАЦЬ НА ПАСТАЯННАЕ МЕСЦАЖЫХАРСТВА Ў КРАІНЫ ДАЛЕКАГА ЗАМЕЖЖА,** зменшылася на тры тысячы чалавек. Калі ў 1992 годзе з краіны выехалі 10 тысяч чалавек, то ў мінулым — 6,9 тысячы.*

**17—20 ЛЮТАГА БЕЛАРУСКІ ФОНД ІМЯ БРАТОЎ ЛУЦКЕВІЧАЎ** разам з Фондам імя Фрыдрыха Эберта (Германія), Цэнтрам імя Улафа Пальме (Швецыя) і Міжнародным інстытутам працоўных і сацыяльных адносін (Беларусь) арганізуюць у Менску Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Асноўныя пытанні сацыяльнай палітыкі і гаспадарання ў Беларусі і суседніх краінах».

***12 ЛЮТАГА Ў ЛІЛЕХАМЕРЫ (НАРВЕГІЯ) ПАЧАЛІСЯ XVII ЗІМОВЫЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ.** Нашу краіну прадстаўляюць 33 спартсмены.*

*АЛЕ!*

## Дзіўная гульня дарослых з мовай на газетным полі «Советской Белоруссии»

У газеце «Советская Белоруссия», якая даўно славіцца сваімі антыбеларускімі выступленнямі, 5 студзеня г. г. быў надрукаваны артыкул Леаніда Крэйдзіка «Исторические реалии и современные мифы». Аўтар выказвае «точку зрения» на некаторыя гістарычныя падзеі.

Л. Крэйдзік піша: «Белорусское наречие формировалось под сильным влиянием польского языка, в результате чего образовался, главным образом на протяжении последних трех столетий, русский диалект польского языка, или, в терминах советской историографии, «белорусский язык». Такія высновы аўтар даказвае тым, што для фарміравання мовы неабходны тысячагоддзі, а для дыялекту хапае і стагоддзяў. Носьбіт жа названага дыялекту — заходнеруская галіна рускага народа.

Можна толькі падзівіцца катэгарычнай безапеляцыйнасці аўтара.

Сяргей ПЕТРЫКЕВІЧ,
вучань 9 класа СШ № 188
г. Менска.

*Жыццё Таварыства*

## Новыя арганізацыі ТБМ

На карце адміністрацыйнага падзелу Беларусі застаецца ўсё менш раёнаў, у якіх не дзейнічаюць арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. А ў леташнім снежні нарадзіліся дзве новыя.

У Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці мясцовую арганізацыю ТБМ узначаліла Тацццяна Сушынская, якая працуе дырэктарам цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. А ў г. Глуску Магілёўскай вобласці старшынёй арганізацыі абрана настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 1 горада Інэса Глас.

Дзве новастворaныя арганізацыі ставяць перад сабою мэту пашыраць карыстанне роднай мовай ў раёне, далучаць насельніцтва раёна да скарбаў роднай мовы, вывучаць мясцовыя тапаніміку і дыялектныя асаблівасці гэтых раёнаў.

Г. ВІНЯРСКІ.

## Родная мова ў Акадэміі міліцыі

Да кіраўніцтва ТБМ імя Ф. Скарыны звярнуліся супрацоўнікі Акадэміі міліцыі з просьбай прачытаць лекцыю для выкладчыкаў Акадэміі пра нашу дзяржаўную мову. Выступіць перад зацікаўленай аўдыторыяй згадзіўся доктар гістарычных навук, вядомы спецыяліст у галіне гісторыі беларускай мовы Леанід Міхайлавіч Лыч. Тэма яго лекцыі: Беларуская мова: гісторыя і сучасныя праблемы.

Каля дзвюх гадзін працягвалася зацікаўленая размова. Пасля лектару былі зададзены шматлікія пытанні, з якіх адчувалася, наколькі хвалюе нашу грамадскасць праблема ўзаемаадносін гістарычнага і сучаснага ў беларускай мове.

Леанід Міхайлавіч згадзіўся таксама выступіць з гэтай лекцыяй і ў іншых навучальных установах.

Усім, хто зацікавіўся згаданай тэматыкай, паведамляем, што заказаць гэту лекцыю можна па менскім тэлефоне Таварыства: 33-25-11.

В. ВЕЙНЯНСКІ.

*Джордж Сорас — Фрыдрых Энгельс сёння?*

Стар. 2 – 3

## На Беларусі няма падстаў для міжнацыянальных спрэчак

**Выканаўчы камітэт Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады распаўсюдзіў заяву па пазіцыі ўзаемадачыненняў паміж беларускім і расійскім народамі, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «...Усе народы былога СССР перажываюць псіхалагічны пералом, абумоўлены савецкім комплексам мыслення і крушэннем камуністычных міфаў. Мы з павагай ставімся да ўсіх нашых суседзяў, у тым ліку да народа Расіі. Мы ўпэўнены, што народ, які стварыў гуманістычную культуру, увайшоўшы ў скарбніцу сусветнай, пераадолее імперскі сіндром (які, дарэчы, з'яўляецца праблемай не толькі расійскага народа), псіхалагічныя цяжкасці руху да дэмакратыі і здолее накіраваць сваю творчую энергію і памкненні на ўладкаванне ўласнай краіны і знаходжанне новых станоўчых ідэалаў. Варта спадзявацца, што і мы, жыхары Беларусі, пазбавіўшыся ад комплексу непаўнавартасці, палітычнай і сацыяльнай апатыі, здолеем энергічна і мэтанакіравана рэфармаваць усе аспекты эканамічнага, палітычнага і сацыяльнага жыцця краіны. БСДГ упэўнена, што на Беларусі няма падстаў для міжнацыянальных спрэчак. Мы маем усе ўмовы для ўзаемаразумення, узаемапавагі і супрацоўніцтва паміж людзьмі ўсіх нацыянальнасцей, якія складаюць народ Беларусі, на карысць нашай Радзімы. Мы адмоўна ставімся да ўсялякіх праяўленняў шавінізму і нацыянальнага экстрэмізму, да ўмяшання ў той ці іншай форме ў справы іншых краін.**

**Грамада будзе намагацца ўсталёўваць сяброўскія, добрасуседскія адносіны з усімі нашымі суседзямі, у тым ліку паміж беларускім і расійскім народамі, паміж суверэннымі беларускай і расійскай дзяржавамі».**

*Але!*

## З якога тэатра Лілія Давідовіч?

Вядома, усіх усхвалявала, калі ў асяродку працаўнікоў прамысловасці ўсур'ёз пачалася падрыхтоўка да Усебеларускай палітычнай стачкі. Хто выказваўся за, хто супраць, кажуць, нават міністр абароны таго-сяго «по-отечески» папярэджваў адпаведным чынам з абяцаннем наступстваў. Збіраліся розныя канферэнцыі і нарады. Наша слаўнае тэлебачанне старалася больш эфектна паказаць тых, хто супраць, хто заклікаў «не бастовать, а работать на благо». Па гэтаму прынцыпу ці таму, што Лілія Давідовіч яшчэ і адметная артыстка, але ў тэлерэпартажы з прафактыву ў «Панараме» 10 лютага яе голас гучаў з экрана, здаецца, нават даўжэй, чымся новага Старшыні Вярхоўнага Савета М. І. Грыба. Можа, і сапраўды наша выдатная артыстка ведае лепш за палітыкаў, што грамадству рабіць і ў які бок падаць. Мы пра іншае — прадстаўніца калектыву Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы выступала... на расійскай мове, зрэдку ўстаўляючы «беларускія» цытаты. Гэта таксама вынік «рублевай зоны нового типа» ці яшчэ што падобнае?

Ул. АС.

МЕРКАВАННІ

# Вернем сваю старую назву — Літва

ПЕРАДА мною ляжыць нумар «ЛіМа» за 20 жніўня. На першай старонцы чытаем: «Калі спяваюць «ліцвіны», нібыта чуеш жывыя галасы старажытнай Літвы-Беларусі». Подпіс — фота У. Панады. На другой старонцы: «...Беларусь (Літва) пачынае моцна ўплываць»... «тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы (Беларусі) і г.д. Подпіс — П. В. (Пётра Васілеўскі).

Старонка 15. Ул. Скрабатун піша: «Лічу, што нам, беларусам... неабходна ехаць у Гаагу ў міжнародны арбітраж і аспрэчваць сваё выключнае гістарычнае права на назву Літва... У адным нумары газеты 3 аўтары даводзяць, што наш сапраўдны назоў — Літва (ліцвіны). Калі сказаць шчыра, гэтае перакананне (што наша Бацькаўшчына менавіта Літва) ёсць у мяне ўжо досыць даўно. Што можна прывесці ў якасці аргументаў? Літвой называлі нас усе суседзі, апроч, відаць, толькі латгалаў-латышоў, якія называлі ліцвінаў — крэво (крывічы былі суседзі). А вось усе астатнія бачылі нас толькі як Літву і ліцвінаў. Украінскія сяляне звалі сялян пад Ноўгарад-Северскім і Чарнігавам — лытвыны. Украінскамоўныя палешукі звалі людзей на поўначы (Слонім, Нясвіж) таксама лытвыны, а краіну адпаведна. Жамойцы называлі Каліноўскага «каралём Літвы». Расейцы крычалі пад Дарагабужам, калі здолелі разбіць значна меншую нашую армію: «Литва бежит!» Нашых сялян яны звалі «літоўскімі панамі», а мову «літоўскай». У творах Лермантава (паэма «Литвинка»), Пушкіна (вершы), Астроўскага, Талстога безліч згадак пра літоўскія гарады, рэчкі, войны паміж Масквой і Літвой і г. д., нават калі самі пісьменнікі не разумелі, што «беларусы» — гэта ліцвіны. Палякі называлі Ягайлу «літоўскім мядзведзем».

Тут мне прыгадваецца размова з «фашыстам» Няўзоравым, што казаў пра Жамойць: «Мы с Литвой в истории всегда воевали...» Ды з намі ты ваяваў, з намі, з цяперашнімі беларусамі, «господин», з нашымі продкамі біліся твае продкі. А вялікі гумарыст Задорнаў расказваў, як жамойцы здымаюць помнік Пушкіну, бо той, бачыце, пакрыўдзіў іх, назваўшы славянамі. І нікому няўцям, што ў словах «волнения ль Литвы», «покиньте спор славян между собою» маюцца на ўвазе нашы продкі.

Як вядома, пасля таго, як падчас Люблінскай уніі Украіна перайшла пад Польшчу, у Вялікім Княстве засталіся Літва (Беларусь) і Жамойць. І дзяржава стала звацца Вялікае Княства Літоўскае і Жамойцкае. Нашы продкі называлі суседзяў-балтаў на паўночным захадзе — жамойты, жамойцы. Чаму ж мы выдумляем штосьці, а не гаворым і пішам: «Жамойцкая рэспубліка, жамойцы»? Яны не толькі атрымалі Вільню, край, а яшчэ і прыпісваюць сабе наш герб і ўсю гісторыю! Ландсбергіс вунь ужо затурбаваўся, як гэта ў нас «беларусы» забіраюць «нашу» гісторыю! У часы ВКЛ дзяржаўныя людзі ўсю краіну называлі Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Літоўскае — цяперашнія беларускія землі, Рускае — Украіна, Жамойцкае — (Жамойць). А вось ужо на нашых землях заходняя частка — да дняпроўскай рэчкі Бярэзіны — была Літвой, на ўсходзе — Русь. Людзі называлі сваю мову рускай, бо ў той час аграмаднае значэнне мела царква. Паняцце «праваслаўны» азначала тое ж самае, што і «рускі». А вось палітычны і этнічны назоў наш — Літва і ліцвіны. Ф. Скарына быў ліцвінам з горада Полацка, што не замінала яму пісаць «Біблію руску», г.зн. праваслаўную.

Думаю, досыць фактаў было прыведзена і тут, і ў артыкуле В. Чаропкі ў «ЛіМе», і ў працах М. Ермаловіча, каб нам пераканацца, што трэба, неабходна вярнуць нашай Радзіме адвечны, гістарычны назоў Літва, нацыянальнасць — ліцвіны. Беларусь можа быць гістарычнай вобласцю на ўсходзе ў складзе дзяржавы Літвы.

С. ВАСІЛЕНКА.
г. Менск.

*У газетах*

## Сумныя вынікі

Менская гарадская газета «Добры вечар» (№ 15, 24 студзеня г. г.) паведаміла, што на апошняй кніжнай выставе, якія цяпер кожны месяц праводзіць Нацыянальная кніжная палата Беларусі, было засведчана: за 1993 год усе нашы дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы выпусцілі 2926 назваў кніг агульным накладам 98,3 млн. паасобнікаў. З іх толькі 786 назваў кніг накладам 18,4 млн. паасобнікаў выйшлі па-беларуску. І гэта, падкрэслім, на дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь!

## «Альбаросіка» ў Мастах

У мастоўскай раённай газеце «Зара над Нёманам» 5 студзеня г. г. выйшла чарговая старонка «Альбаросікі», якую вядзе мясцовы клуб сяброў беларускай мовы і культуры. Матэрыял «Родная мова ў сям'і, на рабоце і ў штодзённым побыце» складаецца з кароткіх апытанняў некалькіх жыхароў Мастоўшчыны — людзей рознага ўзросту, прафесій і роду заняткаў — наконт сферы ўжытку роднага слова за мінулае трохгоддзе, з таго часу, калі быў прыняты Закон аб мовах. Так, прадавец раённай кнігарні заўважыла, што пакупнікі ў яе магазіне, за выключэннем тутэйшых настаўнікаў, як і ўчора, размаўляюць па-руску. А сакратар Гудзевіцкага сельсавета падкрэсліла, што цяпер усе дакументы яны афармляюць толькі на дзяржаўнай мове. Дырэктар адной з сярэдніх школ раёна абурана адзначыла: «Закон аб мовах прынялі, а чыноўнікі як гаварылі, так і гавораць па-руску». Старонка змяшчае таксама разнастайную іншую інфармацыю з культурнага і грамадскага жыцця Мастоўшчыны.

## У слоўнікавай сям'і — папаўненне

Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» выпусціла «Руска-беларускі фізічны слоўнік». Аўтар — кандыдат фізіка-матэматычных навук А. Болсун на працягу чвэрці стагоддзя рупліва збіраў і ўпарадкоўваў беларускамоўную лексіку, якая ўбірае ў сябе розныя фізічныя, матэматычныя, а калі глядзець шырэй — і тэхнічныя тэрміны. У новым слоўніку каля пяці тысяч слоў. Прадмову да кніжкі зрабіў яе рэдактар, доктар фізіка-матэматычных навук А. Богуш («Літаратура і мастацтва», № 3, 21 студзеня г. г.).

М. В.

МЕРКАВАННІ

# Нацыянальныя карані нельга знішчыць

Відаць, не ў аднаго мяне часам узнікаюць пытанні: няўжо на пустым месцы ідзе ў нас адраджэнне ўсяго беларускага? Няўжо на працягу ўсяго існавання паднявольнай Беларусі не засталося нічога, што прама ці ўскосна сведчыла б аб існаванні тут самастойнай дзяржавы? Без сумненняў можна сказаць, што вельмі многае страчана і разбурана. Але нацыянальныя карані нельга знішчыць. Яны застаюцца, не зважаючы на ўсе супярэчнасці эпох і палітычныя катаклізмы. І вось менавіта цяпер гэтыя карані даюць парасткі. І не ў гарадах, а ў вёсках, аддаленых ад прамысловых цэнтраў на многія кіламетры.

Адна з такіх вёсак на Навагрудчыне — вёска Налібокі. Праваднiком ідэй беларускасці тут з'яўляецца мясцовая сярэдняя школа. Настаўнікі і школьнікі збіраюць успаміны вяскоўцаў сталага ўзросту аб традыцыях, святах, прадметах былога іх побыту. Такім чынам паступова ўзнаўляецца яскравая карціна жыцця навакольных вёсак.

І вось мінулае навакольля можна пабачыць ў зале адраджэння, якая абсталявана на другім паверсе школы. Тут — вытрымкі з грунтоўных манаграфічных даследаванняў па гісторыі Беларусі і Навагрудчыны, экспанаты мясцовага краю. Іх ў школе шмат назбірана за апошні час, і гэта справа паспяхова працягваецца.

Гісторыя роднага краю ў такіх, няхай сціплых, залах адраджэння прасочваецца цудоўна, як нідзе больш. Прыклад Налібоцкай школы пераконвае ў гэтым. Добра было б, каб падобныя залы ўзнікалі па ўсёй Беларусі.

А. ПЯТРЫКА.
г. Навагрудак.

# Джордж Сорас —

*Беларускім аддзелам фонда Сораса — «Фондам адкрытага грамадства» напрыканцы 1993 года была выдадзена невялічкая брашура — пашыраны варыянт лекцыі, прачытанай самім Дж. Сорасам 18 лістапада 1992 года ў Гарвардскім клубе Нью-Йорка. Тэкст мае назву «Нацыяналістычныя дыктатуры супраць адкрытага грамадства». Выдадзены па-беларуску, ён дазваляе зрабіць выснову: гэтае навуковае выданне прызначана менавіта той частцы палітыкаў і навукоўцаў, якая свабодна валодае беларускай моваю.*

*Дык якую ж грамадскую канцэпцыю прапануе амерыканскі бізнесмен беларускім палітычным і нацыянальным дзеячам — патэнцыянальным чытачам сваёй кнігі? Уяўленне аб ёй дазваляюць скласці прыведзеныя ніжэй цытаты.*

«У сваім жыцці я часта сутыкаўся з крайнасцямі і, як падаецца, маю вопыт у гэтай справе. Усё пачалося падчас Другой сусветнай вайны, калі ва ўзросце чатырнаццаці гадоў я хаваўся ад пераследаў фашыстаў па фальшывых дакументах. Хаця не, усё пачалося раней, бо падчас Першай сусветнай вайны мой бацька трапіў у палон да рускіх, а збегшы, ён перажыў у Сібіры рускую рэвалюцыю. Гэты вопыт радыкальна змяніў ягоны погляд на жыццё, а я знаходзіўся пад значным бацькавым уплывам. Падлеткам я паспрабаваў як нацысцкага, так і камуністычнага рэжыму. Пазней як інвестар я спецыялізаваўся на рынкавых пад'ёмах і дэпрэсіях і, калі зарабіў грошы, выкарыстаў іх для стварэння фонду, дзейнасць якога скіраваў на пераўтварэнне савецкай сістэмы» (с. 5).

Гэты кароткі біяграфічны нарыс, які дае ўяўленне аб фарміраванні светапогляду аўтара, варта дапоўніць. Прычынай пераследаў Сораса з боку фашыстаў (дакладней, харцістаў, бо падзеі адбываліся ў саюзнай Германіі Венгрыі) былі не палітычныя перакананні будучага мільянера, а яго яўрэйскае паходжанне. Сорас не быў дысыдэнтам і пазней, у час панавання камуністычнага рэжыму, хаця на Захад ён выехаў пасля падзей 1958 года. Маёнтак нажыў у ЗША аперацыямі на рынку каштоўных папер. З канца 80-х гадоў інвесце грошы ў краіны былога сацыялістычнага лагера і СССР. Аддзелы створанага Сорасам фонду існуюць у Беларусі, Расіі, Украіне, Літве, Польшчы, Венгрыі ды шмат у якіх іншых краінах. «Па апошніх падліках, у былой савецкай імперыі было дваццаць восем краін, у васемнаццаці з якіх я цяпер маю аддзяленні майго фонду» (с. 3).

Дык што ж надае такі імпэт палітычнай дзейнасці амерыканскага фінансіста ў былых краінах лагера сацыялізму? Адказ дае ён сам: «Падзенне савецкай сістэмы пагражае ператварыцца ў паражэнне свабоднага свету, бо нам пакуль не ўдаецца інтэграваць гэты рэгіён у свабодны свет» (с. 3). І яшчэ адна цытата: «...падзенне савецкай сістэмы не вядзе аўтаматычна да адкрытага грамадства. Наадварот, больш верагодна, што яно прывядзе да закрытага грамадства больш прымітыўнага тыпу. Савецкая сістэма была закрытай сусветнай сістэмай, а падчас распаду яна можа ператварыцца ў асобныя закрытыя сістэмы, заснаваныя на нацыянальным ці этнічным прынцыпе» (с. 6). Далей: закрытыя грамадствы — тыя, дзе «дамінуе якая-небудзь догма — камунізм альбо які-небудзь рэлігійны ці этнічны фундаменталізм» (с. 4). І яшчэ адна рыса закрытай грамадскай сістэмы, ад усталявання якой у Беларусі перасцерагае Дж. Сорас: «...галоўным патрабаваннем для закрытага грамадства, заснаванага на нацыяналізме, з'яўляецца абавязковае існаванне ворага, супраць якога можна мабілізаваць грамадства. Калі ж ворага няма, яго трэба прыдумаць» (с. 6).

Каб прадухіліць падобнае развіццё падзей, пан Сорас рабіў адпаведныя захады. На Патсдамскай канферэнцыі 1988 г. «Усход — Захад» ён прапанаваў, каб новы «план Маршала» фінансаваўся ў асноўным Еўрапейскай супольнасцю. «Франкфуртэр Альгемайне Цайтунг» напісала на першай старонцы, што «...прапанова была сустрэтая смехам» (с. 16).

Нічога дзіўнага, бо вынікам ажыццяўлення ў 1948—1951 гадах так званага «плана Маршала» было ўзмацненне ў Еўропе эканамічнага ўплыву ЗША. Сёння заходнееўрапейскія прадпрымальнікі мала зацікаўлены ва ўзмацненні пазіцый Злучаных Штатаў на Усходняй Еўропе.

У тыя гады Дж. Сорас паказаў сябе сапраўдным аднадумцам М. Гарбачова, імкнучыся прадухіліць распад СССР і правесці ў ім выключна эканамічныя рэформы: «Я працягваў распрацоўваць ідэю, прапануючы ў тым жа 1988 годзе стварыць Міжнародныя Сілы Садзейнічання для стварэння Адкрытага Сектара ў савецкай эканоміцы» (с. 16). «На канферэнцыі, арганізаванай венгерскім урадам у красавіку 1990 года, на якой прысутнічалі дэлегацыі Чэхаславакіі, Польшчы і Савецкага Саюза, я прапанаваў замяніць СЭУ Клірынгавым Саюзам, заснаваным на еўрапейскай мадэлі... Пазней я даволі актыўна быў задзейнічаны ў так званым плане Шаталіна, ці праграме «500 дзён», якая, па майму меркаванню, магла прадухіліць распад Савецкага Сюза» (с. 17).

«Пасля ўсіх гэтых няплённых спробаў я ўжо зусім не так упэўнены, як раней, што працэсу дэзінтэграцыі можна было пазбегнуць... Захад не здолеў паказаць сапраўдную зацікаўленасць у эканамічнай і грашовай рэформе ў Савецкім Саюзе ці ў новаўтвораных краінах» (с. 18).

«Чаго я недаацаніў, дык гэта моцы нацыяналізму як унутры, так і за межамі былога Савецкага Саюза. Я проста не разумеў, наколькі жорсткім і шырокім ён зробіцца. Цяпер я лічу, што ён стаў галоўнай пагрозай рэгіёна» (с. 12).

Тут звяртае на сябе ўвагу непаслядоўнасць амерыканскага бізнесмена, нелюбоў якога да таталітарных рэжымаў дзіўна супадае з імкненнем захавання СССР. Але, прыгледзеўшыся да ходу думак аўтара гэтай працы, можна заўважыць, што яны выстройваюцца ў пэўную сістэму. Савецкі Саюз з пануючымі ў ім догмамі камунізму і рускага нацыяналізму для Сораса быў адкрытай краінай — адкрытай для ўкладання грошай. Менавіта гэтым і тлумачацца яго спробы апраўдаць нацыянальную палітыку савецкага кіраўніцтва: «Рускія адчуваюць, што яны былі ахвярамі на алтары сістэмы, і, думаючы так, яны маюць рацыю, бо пры савецкім рэжыме ўсе нацыянальнасці, акрамя рускіх, мелі прадстаўнікоў ва ўрадзе. Расію ідэнтыфікавалі з Савецкім Саюзам, таму рускасць знішчалася нават больш старанна, чым адметнасці іншых нацыянальнасцей» (с. 14). Чытачы твора пана Сораса — як беларусы, так і амерыканцы (менавіта ў ЗША брашура была надрукавана ўпершыню) — мусяць зрабіць выснову: стаміўшыся прыгнятаць рускіх, нацыяналісты ўсіх масцей у хаўрусе з камуністамі, што прынялі іх бок, падзялілі СССР на мноства краін, урады якіх схільныя да ўсталявання пракамуністычных нацыяналістычных дыктатур. Працэс дэзінтэграцыі працягваецца, і новыя незалежныя краіны крочаць па шляху Югаславіі — да міжэтнічных збройных канфліктаў.

Нацыяналістычныя дыктатуры, на думку Сораса, пануюць у большасці краін былога СССР. Ён супрацьпастаўляе ім канцэпцыю «адкрытага грамадства».

# Фрыдрых Энгельс сёння?

«Арганізацыйны прынцып (адкрытага грамадства) у тым, што ніхто не мае абсалютных правоў і не валодае абсалютнай праўдай. Адсюль неабходнасць абмежавання правоў дзяржавы ці любой іншай сілы, якая можа распараджацца жыццямі людзей» (с. 22).

«Адкрытае грамадства — больш... чым проста дэмакратыя ў звычайным сэнсе гэтага слова... Калі разумець дэмакратыю як простае права большасці, яна можа прывесці да ўціску і нават этнічных чыстак. Ахова меньшасцяў, свабода думкі і выказвання — надзённыя састаўляючыя адкрытага грамадства, таксама як і існаванне грамадзянскай супольнасці, над якой не дамінуе дзяржава» (с. 19).

«З гэтага пункту гледжання Еўрапейская супольнасць нават болей за Злучаныя Штаты можа быць узята за ўвасабленне канцэпцыі адкрытага грамадства. Яна мае рысу, важнасць якой да канца не ацэненая: усе нацыі, што складаюць супольнасць — меньшасці ўнутры яе» (с. 20).

«Дэмакратыя — справа ўнутраная, у той час як адкрытае грамадства выходзіць за межы дзяржавы. Гэта азначае, што існуе канфлікт паміж канцэпцыяй адкрытага грамадства і канцэпцыяй нацыянальнай незалежнасці, які неабходна вырашыць» (с. 22).

«З тэарэтычнага пункту гледжання, канфлікт не надта складаны для вырашэння. Канцэпцыя адкрытага грамадства дапускае, што нацыянальны суверэнітэт мусіць шанавацца, за выключэннем тых выпадкаў, калі парушаюцца правы чалавека» (с. 22).

Пазіцыя аўтара тут зразумелая. Сорасам прапануецца канцэпцыя краіны як пазбаўленай суверэнітэту часткі федэратыўнай структуры з грамадскім ладам, збудаваным на падставе адмаўлення прынцыпаў дэмакратыі і нацыянальнага самавызначэння. Стварэнне падобнай грамадска-палітычнай фармацыі ён лічыць адзіным спосабам пазбегнуць захопу ўлады ў краіне нацыяналістамі і ўсталявання імі дыктатуры.

Але ці так ужо схільныя дэмакраты свету да пераўтварэння ў нацыяналістычныя дыктатуры? На першы погляд, так, бо ў краінах адной толькі Еўропы існуе мноства нацыяналістычных і прафашысцкіх арганізацый: Партыя нямецкага народа, Італьянскі сацыяльны рух, Французская партыя Ле Пэна, Партыя Вялікай Румыніі, венгерская Партыя праўды і жыцця, Партыя Міраслава Сладэка ў Чэхіі, Рух «аранжавых людзей» у Вялікай Брытаніі ды, урэшце, Ліберальна-дэмакратычная партыя Жырыноўскага ў Расіі. Але адметнай рысай дэмакратычнага грамадства, якім так пагражае Сорас, з'яўляецца пэўнае абмежаванне правоў меншасцей, у дадзеным выпадку — нацыяналістаў і фашыстаў. Гэта робіцца дзеля абароны правоў большасці грамадзян і тым самым інтарэсаў дзяржавы. Сёння дэмакраты краін Еўропы надзвычай далёкія ад нацыяналістычных дыктатур, роўна як і ад поўнай адкрытасці. Наколькі гатовы дзяржавы ЕЭС да адмаўлення ад сваіх нацыянальных і дзяржаўных інтарэсаў ды зліцця ў адзіную супольнасць, паказваюць наступныя прыклады:

— заканадаўства Францыі абмяжоўвае ўжыванне ў краіне ўсіх моў, па-за французскай, а прэзідэнт Мітэран робіць заяву аб немагчымасці аддзялення ад краю Корсікі і Брэтані;

— артыкул 116 дзеючага Асноўнага закона Германіі абвяшчае, што немцам з'яўляецца кожны, хто мае нямецкае грамадзянства;

— дэмакратычная Вялікая Брытанія сілай зброі ўтрымлівае Ольстэр — частку тэрыторыі Ірландыі;

— паліцыя Іспаніі, як і ў часы дыктатуры Франка, вядзе сапраўднае паляванне за дзеячамі руху баскаў;

— у межах ЕЭС існуе цэлы шэраг абмежаванняў вытворчасці і продажу краінамі — удзельнікамі пэўных прамысловых і сельскагаспадарчых прадуктаў;

— урады цэлага шэрага краін «агульнага рынку» адмаўляюць увядзенню агульнай еўрапейскай валюты — экю, затое ў межах Еўрапейскай супольнасці рэгулярна разгараюцца «гандлёвыя войны» — вынікі спроб закрыцця нацыянальных рынкаў для замежных тавараў.

Гэты спіс можна было б працягнуць, але ці варта? Абарона нацыянальных інтарэсаў — менавіта на гэта скіравана дзейнасць урада кожнай з краін свету і менавіта гэтым тлумачыцца пэўная замкнёнасць кожнага з грамадстваў. Але, магчыма, неабходнасць пабудовы ў Беларусі адкрытага грамадства выклікана рэальнай небяспекай захопу ўлады беларускімі нацыяналістамі?

Магчымасць усталявання нацыяналістычнай дыктатуры сапраўды непакоіць беларускае грамадства, дакладней, тую яго частку, погляды якой прадстаўлены выданнямі «Мы и время», «Славянские ведомости», «Политика. Позиция. Прогноз» ды да іх падобнымі. Адсюль вынікае наступнае: рэцэпт пабудовы новага грамадства, прапанаваны Дж. Сорасам, сёння гатовы падтрымаць ці не выключна камуністы старой загартоўкі, дырэктары прамысловых прадпрыемстваў-манапалістаў, ветэраны сілавых і ўладных структур былога СССР, вайскоўцы размешчаных на тэрыторыі Беларусі аддзелаў збройных сіл Расіі ды асобы без грамадзянства, што прыехалі ў рэспубліку з краін Балтыі і раёнаў міжэтнічных канфліктаў у былым СССР. Але найбольш уплывовымі ворагамі нацыяналізму і прыхільнікамі адкрытасці сёння сталі замежныя інвестары, для якіх адкрытасць грамадства азначае адкрытасць эканомікі краіны для пазбаўленай дзяржаўнага кантролю фінансавай дзейнасці.

Грамадскія пераўтварэнні паводле рэкамендацый з-за акіяна гатова падтрымаць нязначная частка насельніцтва. І тут Сорас прапануе наступнае: «Аднак прынцып адкрытага грамадства не можа ўкараніцца без актыўных дзеянняў адкрытага грамадства свабоднага свету... Умяшанне мусіць мець форму пазітыўнага ўзмацнення сіл, якія змагаюцца за адкрытае грамадства» (с. 23). «Неабходна ж было ўзмацніць, як афіцыйна, так і неафіцыйна, тыя сілы, якія шчыра падтрымлівалі ідэал адкрытага грамадства (с. 17). Інакш кажучы, **гэта азначае гатоўнасць фонду Сораса падтрымаць выданні, асоб і арганізацыі, што адмаўляюць народу Беларусі ў яго праве на аднаўленне дзяржаўнасці і на існаванне ўвогуле.**

*Яшчэ адно пытанне.* Ці азначае прыняцце Беларуссю канцэпцыі адкрытага грамадства далейшае ўключэнне яе як роўнай у сусветную супольнасць? «Перспектыва ўз'яднання з Еўропай і далучэння да вольнага свету мае вялікую прывабнасць для кожнага, хто жыў пры камунізме»,— піша на с. 15 містэр Сорас. Але сёння Еўрапейская супольнасць не жадае далучаць да сябе нават непараўнальна больш стабільныя і заможныя за Беларусь Польшчу, Чэхію і Венгрыю. У сваю чаргу, багатыя Швецыя, Нарвегія і Аўстрыя самі не жадаюць уваходзіць у «Агульны рынак», пазбягаючы звязаных з гэтым гандлёвых і вытворчых абмежаванняў. Усё гэта азначае, што для Беларусі з яе кволым нацыянальным, палітычным і грамадскім жыццём у выпадку, калі яна паспрабавала б будаваць адкрытае грамадства паводле прапанаванага заакіянскім дабрадзеем рэцэпта, непазбежным было б уваходжанне ў рублёвую, а не ў доларавую зону, у структуру, якая паўстала б на месцы колішняга СССР. Фактычна гэта азначала б вяртанне да 1988 года, калі Сорас фінансаваў прыхільнікаў захавання Саюза, ставячы адзіную ўмову — стварэнне адкрытага сектара ў савецкай эканоміцы. Тут мэты фінансіста зноў дзіўна супадаюць з намерамі нашчадкаў камуністычнай імперыі.

Цяпер варта даць слова іншаму амерыканскаму даследчыку — Джэры Фолэю, інтэрв'ю з якім было змешчана ў № 3 газеты «ЛіМ» 15 студзеня 1993 года. Дж. Фолэй: «Сёння ў нас на Захадзе найбольшымі прыхільнікамі марксізму з'яўляюцца лібералы. Яны называюць сябе інтэрнацыяналістамі і сцвярджаюць, што нацыяналізм прыгавораны да знікнення, што гэта — старамодная з'ява, што будучыня — за міжнароднымі фармацыямі. Ва ўплывовых амерыканскіх газетах можна знайсці аргументы, вельмі падобныя да аргументаў так званых «марксісцкіх сектантаў»... У гэтым лібералы вельмі падобныя да камуністаў. Яны лічаць бяспечным эканамізм — барацьбу за эканамічныя правы і небяспечным нацыяналізм — барацьбу за правы палітычныя, за нацыянальнае адраджэнне».

Здаецца, у навейшай гісторыі першым бізнесменам, які імкнуўся да здзяйснення сацыяльных пераўтварэнняў, быў Фрыдрых Энгельс. Сёння яго справу працягвае Джордж Сорас, замяніўшы лозунг пралетарскага інтэрнацыяналізму лозунгам інтэрнацыяналізму прадпрымальніцкага. Бізнесмен, як і пралетарый, не мае айчыны. Правесці паралель з творамі заснавальніка навуковага камунізму дазваляе яшчэ адна цытата з кнігі амерыканскага аўтара: «Людзі таксама мусяць верыць у адкрытае грамадства... верыць у яго як у жаданую форму сацыяльнай арганізацыі, падпарадкоўваючы (?!) свае ўласныя інтарэсы дасягненню гэтае мэты» (с. 20). Гэта прапанова нагадвае лозунгі нядаўняга часу з заклікамі верыць у шчаслівую камуністычную будучыню і працаваць дзеля яе.

Дык што ж змушае амерыканскага міліянера з бальшавіцкай зацятасцю выдаваць грошы на сацыяльныя пераўтварэнні ва Усходняй Еўропе і нават ствараць з гэтай мэтай спецыяльны фонд з філіямі ў многіх краінах, у тым ліку і ў нашай? «Я распрацаваў агульную тэорыю, якая засноўваецца на наступным: уяўленні ўдзельніка падзей ніколі не адпавядаюць рэчаіснасці поўнасцю»,— піша на с. 4 сам Сорас. Дык, магчыма, прапанаваныя ім ідэі — вынік неразумення іх аўтарам працэсаў, што адбываюцца ва Усходняй Еўропе? Думаецца, што стварэнню тэорыі неабходнасці ўзнікнення новай супольнасці на месцы былога СССР мае іншую прычыну.

Свет, у якім мы жывём, змяніўся. Усё менш папулярным робіцца погляд звышдзяржаў на іншыя краіны ці рэгіёны як на сферы сваіх геапалітычных інтарэсаў. Але адначасова ва ўсім свеце ўзмацніўся ўплыў наддзяржаўных утварэнняў — транснацыянальных карпарацый, для якіх сённяшняя Усходняя Еўропа і рэспублікі былога СССР з'яўляюцца сферай эканамічных інтарэсаў — рынкам сыравіны, таннай рабочай сілы, а таксама рынкам збыту тавараў. Менавіта гэтым выклікана зацікаўленасць заходніх наддзяржаўных утварэнняў у адзінстве і стабільнасці посткамуністычных грамадстваў. Адсюль і вынікае імкненне злучыць іх у новым СЭУ, СССР, СНД ці нейкай іншай структуры. Адсюль і непрыняцце нацыянальна-вызваленчых рухаў, мэтамі якіх ёсць стварэнне і замацаванне незалежных дэмакратычных дзяржаў.

У. ПАНАДА.

# «Гаштольдава гара» ў эфіры

**У Койданаве філіяй Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра створана ўласная радыёпраграма пад назвай «Гаштольдава гара». Пра яе асноўны накірунак, праблемы, а таксама перспектывы гутараць наш карэспандэнт і дырэктар філіі, галоўны рэдактар радыёпраграмы Уладзімір Кміт.**

**— Спадар Уладзімір, на пачатку нашай размовы хацелася б даведацца пра дзейнасць Вашай філіі. Якая яе асноўная мэта?**

— Навучанне вучняў 7—10 класаў сярэдніх школ, а таксама дарослых людзей сапраўднай беларускай гісторыі, культуры, мове. Да нас прыходзяць людзі самых розных прафесій. Ёсць нават адзін дэпутат раённага Савета. Філія стала цэнтрам згуртавання нацыянальна свядомай часткі нашага насельніцтва. Заняткі праводзяць кваліфікаваныя спецыялісты. Што да падручнікаў, то напачатку карысталіся савецкімі, а цяпер распрацавалі свае праграмы, якія больш-менш адпавядаюць сучасным патрабаванням незалежнай суверэннай дзяржавы.

**— Ці ёсць у Вас сваё памяшканне?**

— На жаль, няма. Нам пайшло насустрач кіраўніцтва мясцовай школы-гімназіі (дырэктар Мікалай Мірон) і выдзеліла пакой для адміністрацыі, а таксама некалькі аўдыторый для заняткаў. Паколькі не маем свайго памяшкання, то заняткі для вучняў 7—10 класаў праходзяць адзін раз на тыдзень у нядзелю, а для дарослых — у вячэрні час.

**— Якімі дасягненнямі можаце пахваліцца?**

— У мінулым годзе ў Менску ў Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры праходзіла вучнёўская навукова-практычная канферэнцыя на тэму «Незалежнасць, гісторыя, мова». Наша вучаніца Галіна Гармаза атрымала адмысловы прыз у секцыі «Беларуская мова», а Вадзім Шосцік паспяхова выступіў у гістарычнай секцыі. Дарэчы, ён паспяхова вытрымаў уступныя іспыты і цяпер вучыцца на стацыянарным аддзяленні Беларускага ліцэя ў Менску.

З часам мы прыйшлі да высновы, што трэба радыкальна рэарганізаваць сваю дзейнасць. Пачалі дамаўляцца з установамі аб арганізацыі курсаў па выкладанні беларускай мовы і гісторыі. Акрамя таго, дапамагаем мясцоваму Дому культуры ў вывучэнні беларускай мовы. Я хацеў бы адзначыць, што ў нас з гарадскім аддзелам культуры (загадчык Алесь Чаган), а таксама з Домам культуры (дырэктар Таццяна Чаган) усталяваліся вельмі добрыя адносіны. Яны нам шмат дапамаглі ў стварэнні ўласнай радыёпраграмы.

**— Які асноўны яе змест, тэматыка?**

— Прапаганда беларускай мовы, гісторыі, культуры. Ідэю стварэння ўласнай праграмы выказвалі выкладчыкі, знаёмыя, якія ведалі пра нашу дзейнасць. Было зразумела, што, акрамя падзеяў культурнага жыцця краіны, у праграме павінны быць адлюстраваны і мясцовыя падзеі. Адразу прыйшла на думку і назва праграмы «Гаштольдава гара». Гэта славутае ў Койданаве месца, на якім падчас Вялікага Княства Літоўскага знаходзіўся кальвінскі пратэстанцкі збор. Напачатку кожнай праграмы, пасля пазыўных, звычайна даём мясцовыя і беларускія навіны, затым каляндар гістарычных дат, а асноўную частку праграмы складаюць гутаркі з мясцовымі беларускімі дзеячамі адраджэння, літаратарамі, гісторыкамі, навукоўцамі пра вядомых асоб, а таксама пра падзеі, якія адбываюцца ў Беларусі, асабліва ў Койданаве. На заканчэнне праграмы падаём рэкламныя весткі, запісы гуртоў.

**— У Вас свой эфірны час?**

— На жаль, пакуль што свайго эфірнага часу не маем. Выходзім у сетцы мясцовага радыёвяшчання.

**— Хто займаецца непасрэдна падрыхтоўкай перадач?**

— Калектыў складаецца з шасці чалавек: Анатоль Лазар, Наталля Ермаловіч, Галіна Гармаза, Іна Кміт, Уладзімір Сочнеў і я. Прыемна адзначыць, што менавіта я знайшоў гэтых людзей, найбольш адданых беларускай справе, адукаваных, якіх у наш час не часта сустрэнеш.

**— А як з фінансаваннем Вашай філіі? Ці атрымліваеце Вы нейкую падтрымку ад дзяржавы?**

— Нашу філію фінансуе Міністэрства адукацыі, але грошы выдзяляюцца толькі для аплаты штатных супрацоўнікаў. Таму грошы на радыёпраграму зарабляем самі. Час ад часу праліваем слёзы, пакуль што перападае. Нейкія даходы атрымліваем за рэкламу.

**— Як Вам бачыцца перспектыва радыёпраграмы?**

— Найперш атрымаць свой час у эфіры. Што да зместу праграм, то ў іх будуць асвятляцца моўныя пытанні, гістарычна-культурныя, заснаваныя як на агульнабеларускім матэрыяле, так і на мясцовым. Адна з перадач была цалкам прысвечана 80-годдзю выхаду ў свет «Вянка» Максіма Багдановіча. Рыхтуецца цыкл перадач пра паходжанне беларускіх імёнаў і прозвішчаў, па тапаніміцы беларускіх гарадоў і мястэчак і г.д. Думаем таксама прапанаваць цыкл навучальных праграм па мове, гісторыі, культуры для навучэнцаў школ гарадоў і раёнаў.

**— Поспехаў Вам у працы!**

Распытвала
Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Рэха*

# СОРАМНА!

Дзіўна было глядзець, як на вечарыне, прысвечанай ушанаванню лаўрэатаў конкурсу «Залатая ліра», уручалі прэміі пераможцам.

Прэмію імя С. Карніловіча, прывезеную з далёкага Кліўленда, уручалі Анатолю Ярмоленку... на рускай мове.

І гэта прэмія носіць імя чалавека, які ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціў захаванню і адраджэнню беларускай мовы, беларускай культуры на далёкай чужыне.

Няўжо ва ўсім Менску не знайшлося чалавека, які б падчас уручэння сказаў некалькі слоў па-беларуску. Англічане — змаглі, а мы — **не. Сорамна!**

І. Ф.

*Старыя беларускія гімназіі*

*Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль*

# СЕЕЛАСЯ ЗЕРНЕ АДРАДЖЭННЯ

***У розны час у беларускім замежжы (цяпер яно стала так званым далёкім) выходзілі самыя розныя перыядычныя (а часам і неперыядычныя, бо сродкаў не хапала) выданні. Безумоўна, эміграцкі друк і па сённяшні дзень даволі разнастайны. І ўсё ж, бадай, асаблівую цікавасць выклікаюць тыя газеты, часопісы, што з'явіліся яшчэ тады, калі эміграцыя толькі станавілася на ногі. З іх яскрава бачна, як ідэі нацыянальнага Адраджэння, не ажыццёўленыя на Бацькаўшчыне, не загінулі на чужыне, а сталі для сумленных беларусаў сапраўдным духоўным апірышчам.***

***Часцінка друкаванага летапісу замежжа — рататорны «часопіс маладога пакалення» пад назвай «Віці», які ў Злучаных Штатах Амерыкі выпускалі Згуртаванне беларускай моладзі і Беларускае студэнцкае таварыства. Першы нумар гэтага выдання выйшаў у чэрвені 1952 года.***

***У першым нумары надрукаваны нарыс «Максім Багдановіч», змешчана некалькі твораў паэта. З гістарычных матэрыялаў — артыкул Г. Родзькі-Русака «Барбара Радзівіл». Асноўнае ж месца займае разнастайная інфармацыя. Увогуле, хоць памер выдання быў і невялікі, тыя, хто выпускаў «Віці», імкнуліся, каб часопіс і на самай справе стаў сваім для беларускіх юнакоў і дзяўчат у Амерыцы.***

***У некалькіх нумарах друкаваўся артыкул Я. Вершалюба «Як пішуцца вершы» — аб асноўных законах вершатворчасці. Не абміналіся і праблемы культуры.***

***Апошні выпуск «Віці» (№ 10, люты 1957 г.) прыцягвае ўвагу артыкулам «Клецкая беларуская гімназія», падпісаным «В.К.» Гэта публікацыя, на маю думку, варта таго, каб з ёй пазнаёміліся чытачы «Нашага слова». Змест публікацыі пераконвае, што на Бацькаўшчыне заўсёды былі нацыянальна свядомыя людзі, якія рупіліся пра Адраджэнне. Магчыма, хто-небудзь з тых колішніх клецкіх гімназістаў прачытае гэтыя радкі... Добра было б, каб ён адгукнуўся, расказаў пра свой далейшы лёс. Усё ж такая вучоба (а з матэрыялу відаць, што выкладанне і выхаванне там ажыццяўлялася на высокім узроўні) не праходзіць бясследна.***

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

КЛЕЦКАЯ беларуская гімназія пачала сваю працу ў 1923 годзе ў Нясвіжы. Спачатку было адкрыта чатыры класы. Гімназія знаходзілася на Альбянскай вуліцы ў доме Дылеўскіх. Першымі настаўнікамі былі: Грыгор Якубёнак — дырэктар, Фр. Шнаркевіч, Вячаслаў Арэнь і Ганна Малойла.

У Нясвіжы, аднак, гімназія праіснавала толькі адзін год і ў наступным годзе перабралася ў Клецк. Канцэсію на гімназію ўзяў на сябе жыхар г. Клецка Антон Якімовіч. І гімназія насіла яго імя. Поўная назва гімназіі: «Клецкая беларуская гімназія А. Якімовіча, тып матэматычна-прыродазнаўчы».

На пачатку гімназія размяшчалася ў доме Паповічаў у канцы Нясвіскай вуліцы. Было адкрыта 5 класаў, бо некаторыя вучні, якія наведвалі гімназію ў Нясвіжы, перабраліся ў Клецк, каб працягваць навуку. Дырэктарам гімназіі заставаўся Г. Якубёнак... У Клецку гімназія папоўнілася новымі настаўніцкімі сіламі — Антон Якімовіч стаў выкладаць музыку і спевы, Мушкаціха — польскую мову, сп. Энгель — нямецкую мову, святар Грыгор Лукашэвіч — рэлігію. Наплыў вучняў, асабліва ў малодшыя класы, быў значны. Праца вялася ў дзве змены, бо памяшканне мела толькі тры класныя пакоі.

У 1926 годзе дырэктару ўдалося наняць новае памяшканне на Татарскай вуліцы, куды і была пераведзена гімназія. З таго ж часу Надзея Шэмбарг пачала выкладаць гісторыю і расійскую мову, нямецкую мову — Вера Сініцына, польскую мову ў старэйшых класах выкладаў сп. Кральскі, а родную мову ў малодшых класах выкладаў сп. Кішкель. У гімназіі вучылася сялянская моладзь з ваколіц Клецка, а таксама вучні з Нясвіскага, Баранавіцкага, Лунінецкага і Слонімскага паветаў. Невялічкую колькасць вучняў складалі дзеці святароў і дзякаў.

Аплата за навучанне ў гімназіі была невысокая, бо вучылася тут пераважна сялянская беднага. Таму дырэкцыя мела вялікія фінансавыя цяжкасці. Але працавалі настаўнікі самаахвярна. Асаблівай адданасцю справе вылучаўся дырэктар Грыгор Якубёнак. Ён выкладаў у старэйшых класах матэматыку, родную мову і гімнастыку. Працаваў з вучнямі па 30—36 гадзін на тыдзень, а яшчэ займаўся сталяркай, сам рамантаваў вокны, дзверы і вучнёўскія лаўкі. Часта дырэктар піў гарбату без цукру... Узаемаадносіны паміж вучнямі і настаўнікамі былі вельмі добрыя, гімназія жыла як адна сям'я... Гімназія стала сапраўднай кузняй беларускага нацыянальнага выхавання і навучання.

У гімназіі адзначаліся ўсе беларускія нацыянальныя святы, асабліва ўрачыста святкавалі 25 сакавіка, як дзень Незалежнасці Беларусі. Літаратурныя даты адзначаліся літаратурным гуртком гімназіі, дзе звычайна адзін з вучняў старэйшага ўзросту чытаў рэферат, а драматычны гурток рыхтаваў для дэкламацыі вершы. Хор выконваў песні, напісаныя на словы гэтага паэта. У 1926 годзе Антон Якімовіч выехаў на сталае жыхарства ў Вільню, а спевы і музыку стаў выкладаць настаўнік Нячай.

У 1927 годзе дырэкцыі гімназіі ўдалося запрасіць да сябе на працу ў якасці выкладчыка музыкі і спеваў вядомага кампазітара і дырыжора Антона Валынчыка. Першнаперш ён узяўся за арганізацыю хору, у якім брала ўдзел да 60 вучняў. За некалькі месяцаў Валынчыку ўдалося наладзіць работу хору. Беларускія песні і творы самога дырыжора мелі вялікі поспех. Хор часта даваў канцэрты ў Клецку, ездзіў выступаць па навакольных вёсках. У 1928 годзе Валынчык арганізаваў струнны аркестр, які налічваў 50 асоб. Канцэрты і драматычныя інтэрмедыі навучэнцаў папаўнялі пустую касу гімназіі.

У тым жа годзе на пасаду выкладчыка польскай мовы і літаратуры быў прыняты паланіст з Віленскага універсітэта Ярэмі Драган. Ён быў вельмі добры выкладчык.

У 1927/28 навучальным годзе гімназіі аказалі грашовую дапамогу беларускія вернікі-метадысты, дзякуючы якой гімназія займела свой інтэрнат для хлопцаў, які знаходзіўся на Нясвіскай вуліцы ў доме сп. Сідаровіча. У інтэрнаце жыло каля 20 вучняў, іншыя — на прыватных кватэрах. У 1930 годзе тыя ж самыя метадысты дапамаглі стварыць гімназічны інтэрнат для дзяўчат.

Росквіт гімназіі прыпаў на 1928/29 навучальны год. Тады адбыўся першы выпуск гімназістаў. Восьмы клас паспяхова скончыла 16 вучняў, агульная колькасць навучэнцаў тады перавышала 180 чалавек. На выкладанне матэматыкі ў старэйшых класах быў прыняты украінец Іван Рудакевіч. У 1930 годзе кампазітар Валынчык перабраўся ў Наваградак, там працаваў пры Наваградскай беларускай гімназіі.

Польскія акупацыйныя ўлады непрыхільна ставіліся да Клецкай беларускай гімназіі. У 1931 годзе загадам віленскага куратара гімназія была зачынена. Такім чынам, каля 200 вучняў пазбавіліся навукі ў сваёй роднай сярэдняй школе. Толькі вельмі невялікая колькасць іх змагла вучыцца далей у Наваградскай і Віленскай беларускіх гімназіях. А большасць гімназістаў вярнулася ў свае вёскі, там праводзіла нацыянальна-культурную працу, не зважаючы на праследаванні з боку польскіх улад.

В. К.

*Тэкст друкуецца ў перакaзе.*

*Замежжа*

## У Эстоніі беларусы вымушаны звяртацца ў расійскае пасольства, каб атрымаць расійскае грамадзянства

НА АДРАС Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з эстонскага радыё ад супрацоўніцы беларускай перадачы «Бацькаўшчына» прыйшоў ліст, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Выказваем падзяку за значную дапамогу, якую Вы аказалі нам у кастрычніку мінулага года. Газеты, календары і падручнікі па гісторыі Беларусі, якія мы атрымалі, вельмі спатрэбіліся.

На працягу года я правяла цыкл перадач пад назвай «Нашы славутыя землякі», якія былі прысвечаны Адаму Міцкевічу, Міхалу Казіміру Агінскаму, а таксама пісьменнікам, навукоўцам, гісторыкам — ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Не магу ўтрымацца, каб амаль у кожнай перадачы не прачытаць верш Ніла Гілевіча, прыхільніцай якога з'яўляюся.

Мой калега Сяржук Сотчанка больш скарыстоўвае гістарычныя матэрыялы, па архітэктуры Беларусі, рэлігіі і аб народах, якія насяляюць Беларусь.

Радыёперадача «Бацькаўшчына» — адзіны сродак масавай інфармацыі і культуры на беларускай мове ў Эстоніі. Мы працуем толькі на энтузіязме і за асабістыя сродкі. Наша мэта — не даць беларусам забыцца, хто яны і што беларускі народ мае вялікую гісторыю, цудоўную культуру і мову, не менш прыгожую за іншыя.

Мы стараемся адрадзіць нацыянальную самасвядомасць беларусаў Эстоніі. Але не ўсе згодны з нашым накірункам і чамусьці лічаць нашу перадачу «народнафронтаўскай». Нас з зацікаўленасцю слухаюць палякі і ўкраінцы.

Значная колькасць беларусаў, якая нарадзілася ў Эстоніі ці трапіла сюды ў дзяцінстве, не ведае сваіх каранёў і лічыць сябе савецкімі людзьмі.

На жаль, мы не маем сувязі з Радзімай, таму што ў Эстоніі адсутнічае дыпламатычнае прадстаўніцтва Беларусі, і ўся беларуская дыяспара адчувае сябе пакінутай і нікому не патрэбнай. Беларусаў зараз нічога не цікавіць, акрамя беларускага грамадзянства, якое атрымаць тут немагчыма, і таму беларусы вымушаны звяртацца ў расійскае пасольства, каб атрымаць расійскае грамадзянства. Мужчыны ідуць служыць у расійскае войска, а на выбарах галасавалі за Жырыноўскага, нягледзячы на тое, што войска адсюль у хуткім часе выведуць і гэтыя людзі тут усё згубяць.

Вось у такіх умовах мы вымушаны працаваць. Але кожная перадача для нас, як свята, да якога мы рыхтуемся, на якое заўсёды спяшаемся».

## „BELARUSIAN REVIEW“, Vol. 5, No.3 Fall 1993

Пасля доўгага перапынку рэдакцыя атрымала чарговы нумар англамоўнага штоквартальніка «Беларус'ен рэв'ю». Яго змест, як і змест усіх папярэдніх нумароў, багаты і разнастайны. Тут друкуецца змястоўная інфармацыя з жыцця ў Рэспубліцы Беларусь, якая, безумоўна, выклікае цікавасць у англамоўных чытачоў усяго свету. Яны змогуць прачытаць у апошнім нумары пра палітычныя падзеі і эканамічную сітуацыю на Беларусі, пра культурнае жыццё нашай краіны.

Некалькі старонак нумара рэдактар часопіса Дж. Прайс прысвяціў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу, з нагоды яго візіту ў Злучаныя Штаты, які адбыўся ў ліпені мінулага года.

Безумоўна, значнай увагі заслугоўвае артыкул Арта Турэвіча «Беларусь пасля маскоўскіх падзей», у якім ён ахарактарызаваў палітычную сітуацыю ў Беларусі пасля маскоўскіх падзей, паказаў адносіны да іх беларускага ўрада і пракамуністычнай парламенцкай большасці, з аднаго боку, і апазіцыі Вярхоўнага Савета — з другога.

У нумары змешчаны ўрыўкі з артыкула Дзмітрыева «Рэформы Беларусі: Урокі і вывады», надрукаванага ў газеце «Семь дней» (4 верасня 1993 г.), а таксама гутарка з генеральным дырэктарам Смаргонскай аптычнай фабрыкі Сяргеем Пеліхам («Свободные новости», жнівень 1993 г.). Яны даюць уяўленне англамоўным чытачам пра эканамічны стан на Беларусі.

Часопіс працягвае рубрыку «спадчына Чарнобыля». На гэты раз тут друкуюцца ўрыўкі з працы «Беларусь: Ілюзія стабільнасці». Яе аўтар д-р Дэвід Р. Маплз, прафесар гісторыі з Канады, які пэўны час займаўся даследчыцкай работай на Беларусі.

Рубрыка «Беларускае замежжа» на гэты раз цалкам прысвечана 25 з'езду Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, які адбыўся 4—5 верасня 1993 г. у Брунсвіку. На з'ездзе, акрамя пытанняў, якія датычаць дзейнасці гэтай арганізацыі, было вырашана падрыхтаваць і выдаць інфармацыйны бюлетэнь пра Беларусь, а таксама накіраваць ліст Прэзідэнту ЗША Білу Клінтану з апеляцыяй іх сустрачы з лідэрам беларускага парламента Станіславам Шушкевічам.

У нумары змешчана кароткая анатацыя на кнігі пра Беларусь, якія выйшлі ў англамоўным свеце. У прыватнасці, на кнігу д-ра Янкі Запрудніка «Беларусь: На скрыжаваннях гісторыі», працу К. Міхаліка «Палітыкі і грамадская думка на Беларусі» і д-ра Дэвіда Р. Маплза «Беларусь: Ілюзія стабільнасці».

Пад рубрыкай «Падзеі» падаецца падрабязная інфармацыя з палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця Беларусі, друкуюцца выпісы з беларускага перыядычнага друку.

Л. Б.

# Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАВЕТРА (сумесь газаў, галоўным чынам азоту і кіслароду, якія акружаюць зямную паверхню) *Было ўжо за поўнач, але паветра не толькі не халаднела, а, здавалася, нават цяплела* (Маўр), АТМАСФЕРА размоўнае [*Пранук:*] — *Колькі дзён дажджы ішлі. Вільгаці багата ў атмасферы* (Лынькоў), ДУХ разм. *У хаце з пазачыненымі вокнамі і дзвярмі стаяў густы дух, што сабраўся ад напаленай печы, ад спякоты на двары* (Далідовіч).

ПАВОДКА (часовае падняцце вады ў вадаёмах у выніку раставання снегу або вялікіх дажджоў) *Калі была паводка,.. [Нёман) разліваўся больш чым на кіламетр* (Гурскі), ПАТОП разм., узмацняльнае і жартоўнае *Патоп стаяў на Камароўцы вясной і ўвосень кожны год* (Гілевіч), РАЗВОДДЗЕ (веснавая вада, вясновы разліў) *Разводдзе зрабіла гэты лес востравам, на якім павінны ратавацца ўсе жывёлы, што жывуць у гэтых мясцінах* (Маўр), РАЗЛІЎ (выхад з берагоў ракі; веснавая вада) *Мне не часта даводзілася бачыць Дняпро ў час яго разліву, ды яшчэ ў такую слаўную ранішнюю пару...* (Ракітны).

1. ПАВОЛЬНЫ (пра рух, пра які-н. працэс і пад.: які адбываецца, робіцца з малой хуткасцю) *Марыля глядзіць на павольныя марскія хвалі* (Кулакоўскі), МАРУДНЫ, ЦІХІ *Без агнёў і ціхім ходам яны адводзілі цягнік у тыл* (Чорны), ЧАРАПАШЫ *Час ішоў чарапашым крокам* (Курто), ЛЯНІВЫ *Недалёка за імшыстымі стваламі дрэў паблісквае лянівымі хвалямі рэчка* (Нядзведскі), ЗАПАВОЛЕНЫ (больш навольны, чым звычайна) *Валодзя спыніўся каля самай вады, паглядзеў на запаволеную плынь* (Шамякін).— *Антонімы:* Хуткі, імклівы.

2. ПАВОЛЬНЫ (пра паходку, пра манеру гаварыць, рухацца і пад.: пазбаўлены паспешнасці, мерна-спакойны) *Я ўважліва і цярпліва слухаў павольную гаворку гаспадара* (В. Вольскі), МАРУДНЫ *Ён правёў разы са два сваім марудным цяжкім поглядам па шэрагу касцоў, потым запытаў ціхім нізкім голасам* (Зарэцкі), МАРУДЛІВЫ разм.— *Дык гэта я да дачкі ездзіў — во-о! — гугнявіў за перагародкаю марудлівы мужчынскі голас* (М. Стральцоў), НЯСПЕШНЫ *З няспешнага расказу Паўліка я даведваюся, што дзед паехаў на Палессе яшчэ ў маі* (Хомчанка), НЕПАСПЕШЛІВЫ *Ніна пачула яшчэ ў сенцах яго спакойныя непаспешлівыя крокі* (Мележ), НЕТАРОПКІ *У нетаропкім тупанні яго на падворку адчувалася радасць звароту да прывычных хатніх спраў* (Ліс), ПАВАЖНЫ *Грузкай паважнай хадою прайшоў Няслоўскі разы два па пакоі* (Мурашка), ЛЯНІВЫ *Яе рухі лагодныя, лянівыя, быццам яна вельмі стомлена жыццём* (Бядуля), ЗАПАВОЛЕНЫ (больш павольны, чым звычайна) *Рухі па-юначаму нязграбныя, запаволеныя* (Радкевіч).— *Антонімы:* Хуткі, імклівы.

ПАВУЦІНА (сетка з тонкіх ніцей, утвораных з клейкага рэчыва, якое выдзяляецца павуком) *На ніцях белай павуціны прыносяць восень павучкі* (Колас), ПАВУЦІННЕ зборнае *У небе свяціла сонца і плыло срабрыстае павуціннс* (Краўчанка).

1. ПАВУЧАЛЬНЫ (які ўтрымлівае ў сабе павучанне, настаўленне) *Павучальная гутарка,* НАВУЧАЛЬНЫ *Навучальны выпадак,* СЕНТЭНЦЫЙНЫ кніжнае *Сентэнцыйнае выступленне,* МЕНТАРСКІ неадабральнае (залішне, надакучліва павучальны), РЭЗАНЁРСКІ (які ўтрымлівае павучанне з мнагаслоўнымі разважаннямі) *Рэзанёрскія павучанні,* ДЫДАКТЫЧНЫ кніжнае (пераважна пра кнігу, пра змест кнігі і пад.) *Дыдактычная літаратура.*

2. ПАВУЧАЛЬНЫ (пра тон, голас, манеру гаварыць: такі, які звычайна бывае пры павучанні, настаўленні) *Павучальны тон,* НАВУЧАЛЬНЫ *Ён [Няхлябіч].. з самага пачатку загаварыў навучальным тонам з Пніцкім* (Чорны), РЭЗАНЁРСКІ неадабральнае (звычайна залішне павучальнае), НАСТАЎНІЦКІ (такі, якім гавораць старэйшы, больш вопытны з маладзейшым, менш вопытным), МЕНТАРСКІ неадабр. (часцей ужываецца са словам тон: такі, якім вымаўляюць павучанні выхаваўчага характару, якім гавораць старэйшы, больш вопытны з маладзейшым, са значнымі элементамі строгасці, безапеляцыйнасці), ДАКТАРАЛЬНЫ кніжн. (педантычна павучальны, безапеляцыйны, які не дапускае пярэчанняў).

ПАВУЧАННЕ (звернутыя да каго-н. парады, указанні, як патрэбна рабіць што-н.) *Асабліва безуважным быў Грышка да дзедавых павучанняў, калі недзе яго чакалі сябры* (Паслядовіч), НАСТАЎЛЕННЕ — *Не лезь ты са сваімі настаўленнямі,— агрызнуўся, але без злосці Вайчок* (Хадкевіч), НАВУЧАННЕ разм. (парада навучальнага характару) —*Ты можа б кінуў ужо чытаць мне свае навучанні?..— гнеўна кінула.. [Лена] вачамі на брата і выйшла* (Лынькоў), МАРАЛЬ разм. [Максім:] — *Ты мне маралі не чытай... На сябе спачатку паглядзі* (Шамякін), ПРОПАВЕДЗЬ разм. іранічнае (надакучлівае і доўгае павучанне) [*Галубовіч:*] — *Не палічы гэта за нейкую пропаведзь. Я звяртаюся да цябе як да чалавека, якому веру* (Колас), НАТАЦЫЯ (настаўленне, у якім выказваецца нездаволенасць кім-н., вымова за што-н.) *І [бацька] пачаў натацыю: «Не будзе толку!.. Не выйдзе з цябе чалавека!.. Не хочаш мяне слухаць, ідзі куды хочаш!»* (Грамовіч).

ПАВУЧАЦЬ (даваць каму-н. павучальныя парады, настаўленні) *На паходзе, на вайне разведка і сувязь маюць дужа важнае значэнне,— павучаў... [Букрэй] дзеда* (Колас), ВУЧЫЦЬ размоўнае — *Не чапайся ты з імі, няхай іх,— вучыла Зося свайго хлопца* (Брыль), НАСТАЎЛЯЦЬ (даваць канкрэтныя парады, рэкамендацыі, як правільна рабіць што-н. у тым ці іншым выпадку) *Праз якую гадзіну... [Алесь] пачуў у калідоры голас дзеда, які канчаў настаўляць кухара* (Караткевіч).

## Адасобленыя акалічнасці

(Заканчэнне)

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

II. 1. Акалічнасці, выражаныя адзіночнымі прыслоўямі або прыслоўнымі словазлучэннямі, адасабляюцца і аддзяляюцца пры дапамозе коскі, калі паясняюць выказнік ды інтанацыйна і сэнсава выдзяляюцца ў сказе: *На ўзлессі, па-асенняму, шумелі хвоі* (Якуб Колас). *Нехта зноў свіснуў, ужо трохі смялей* (Кандрат Крапіва).

Але калі такія акалічнасці інтанацыйна і сэнсава не выдзяляюцца ў сказе, то яны не адасабляюцца і знакамі прыпынку не аддзяляюцца: *Неба сінела па-веснавому чыста* (І. Мележ). *Марозны снег пад нагамі парыпвае гучна і бадзёра* (Я. Брыль).

2. Часцей за ўсё адасабляюцца і аддзяляюцца коскамі адна ці дзве акалічнасці, якія выражаны назоўнікамі з прыназоўнікамі і стаяць у сярэдзіне або ў канцы сказа: *Бура і дуб можа вывернуць, з коранем* (Якуб Колас).

3. Акалічнасці, якія выражаны назоўнікамі ўскосных склонаў і стаяць у пачатку

## УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

2. Пры інтанацыйным і сэнсавым выдзяленні адасабляюцца і аддзяляюцца пры дапамозе коскі акалічнасці, якія выражаны адзіночнымі прыслоўямі або прыслоўнымі словазлучэннямі і паясняюць другія акалічнасці ў сказе: *Праз дзён два, раніцаю, ён пайшоў да Бухчы* (Кузьма Чорны). *Па полі, найпрасткі да вёскі, ішоў чалавек* (Якуб Колас).

3. Калі адасабленне акалічнасцей, выражаных прыслоўямі або прыслоўнымі словазлучэннямі, падкрэслена з асаблівай сілай, то ў такім разе ставіцца працяжнік: *Ляцяць над імі — дымам — хмары* (А. Вялюгін).

4. Калі адасобленыя акалічнасці (пераважна неразвітыя) удакладняюць або паясняюць другія акалічнасці ў сказе, а перад імі існуе працяглая паўза і магчыма пастаноўка злучальнага слова **а іменна,** то такія акалічнасці заўсёды аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе працяжніка, напрыклад: *Хата пабудавана на вясковы лад — проста і адмыслова* (Кузьма Чорны).

III. Адасобленыя акалічнасці, выражаныя інфінітывам або інфінітыўным словазлучэннем, аддзяляюцца працяжнікам, калі стаяць пасля паясняемага выказніка (звычайна ў канцы сказа): *Партызаны спыніліся ў ляску — адпачыць* (П. Галавач).

IV. 1. Адасабленне акалічнасцей, выражаных назоўнікамі ўскосных склонаў, залежыць ад таго, трэба ці не трэба інтанацыйна і сэнсава выдзеліць пэўную акалічнасць з тым, каб надаць ёй большае значэнне. Параўн.: *Ноччу, пры святле газнічкі, друкаваліся лістоўкі* (С. Баранавых) і *Ноччу пры святле газнічкі друкаваліся лістоўкі.*

сказа, адасабляюцца і аддзяляюцца коскамі, калі яны развітыя і слаба звязаны з паясняемым словам (выказнікам): *З прычыны слабага здароўя, ён увесь час сядзеў дома* (М. Зарэцкі).

4. У пачатку сказа могуць адасабляцца і аддзяляцца коскай неразвітыя і развітыя акалічнасці, якія выражаны назоўнікам з прыназоўнікамі **насуперак, згодна з** і інш.: *Насуперак жаданню, Лабановіч доўга не мог заснуць* (Якуб Колас).

5. Адасабляюцца і аддзяляюцца коскамі акалічнасці, якія выражаны назоўнікамі з прыназоўнікамі **нягледзячы на, дзякуючы** і стаяць перад паясняемым словам: *Нягледзячы на позні час, ніхто з пасажыраў не спаў* (І. Шамякін).

**Заўвага.** Калі адасобленыя акалічнасці, выражаныя назоўнікамі з прыназоўнікамі **нягледзячы на, дзякуючы,** знаходзяцца непасрэдна за злучнікамі, то пасля гэтых злучнікаў звычайна ставіцца коска: *Конь хадзіў па абочыне дарогі і, нягледзячы на шалёную страляніну, спакойна шчыпаў траву* (Кузьма Чорны).

6. У тых выпадках, калі адасабленне акалічнасцей, выражаных назоўнікамі з прыназоўнікамі, падкрэслена з асаблівай сілай, ставіцца працяжнік: *Распранался яна марудна — ад утомы* (І. Мележ).

7. Працяжнікам звычайна аддзяляюцца аднародныя акалічнасці, калі іх адасабленне падкрэслена з асаблівай сілай: *Ці ў агарод, ці па ваду — яны ішлі ўдваіх* (І. Грамовіч).

Але калі з асаблівай сілай падкрэслена паясняльнае слова (ці яго група), то яно атрымлівае дадатковае абагульняючае адценне і размешчаныя за ім аднародныя акалічнасці аддзяляюцца пры дапамозе двукроп'я: *Ярка свяціла сонца: над полем і лесам, над горадам і вёскай* (Якуб Колас).

## ХАЧУ ВЕДАЦЬ

# Націск у дзеясловах

Сталы чытач «Нашага слова» М. Валько прыслаў ліст, у якім звяртае нашу ўвагу на памылковую дзеяслоўную акцэнтуацыю, а менавіта, у загалоўку «Ажыццявім задумы ТБМ». Ён папраўіў націск у дзеяслове *ажыццёвім.* Наш варыянт націску — *ажыццявім* — чытач лічыць русізмам і ўдакладняе, што такія калькі робяцца паводле падабенства з расійскай акцэнтуацыяй: обнови́м — абнавім, а трэба абно́вім; настои́м — настаім, а трэба насто́ім; погляди́м — паглядзім, а трэба пагля́дзім.

Не нашая гэта віна. Мы падалі слова паводле нормы, вызначанай у «Слоўніку беларускай мовы. Арфаграфія, Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987) пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР М. В. Бірылы. Але мы прызнаём рацыю нашага шаноўнага чытача.

Што ж нам рабіць? Каго слухаць? Відаць, не варта і нейкія спрэчкі пачынаць, бо, як кажуць дасведчаныя людзі, правапісная камісія Вярхоўнага Савета Беларусі, якая працавала над ці то ўдакладненнем, ці то захаваннем правілаў беларускага правапісу, пакінула, нібы, усё, як ёсць. А значыць, і дзеяслоўную акцэнтуацыю.

У прадмове да вучэбнага дапаможніка «Націск у дзеяслоўных формах сучаснай беларускай мовы» (Мн., 1981) яго аўтар Яўгенія Міхайлаўна Івашуціч згадвае, што беларуская акцэнталогія мала распрацаваная і як раздзел мовазнаўства знаходзіцца ў працэсе станаўлення. З таго часу гэтая галіна навукі пасталела не на шмат.

Верагодна, асноўная прычына такога стану — кірунак на русіфікацыю нашай мовы. Гэтаму спрыяла і асаблівасць націску ў нашай мове: ён не звязаны з фанетычным складам слова, як, прыкладам, націск у польскай мове (на перадапошні склад). Не звязаны ён і з колькасцю галосных, як у лацінскай мове. Да таго ж у нашай мове, як і ў расійскай, ён дынамічны, рухомы, не прымацаваны да пэўнага склада і можа прыпадаць на любы склад слова і на розныя яго часткі: прыстаўку, корань, суфікс, канчатак.

Дзеяслоў *ажыццявім-ажыццёвім,* паводле класіфікацыі Я. М. Івашуціч, адносіцца да групы IV прадуктыўнага класа, у якім больш за 700 слоў. Формы інфінітыва дзеясловаў гэтай групы маюць два тыпы націску: на суфіксе і на корані. Каля 80 дзеясловаў ўжываюцца з дублетным націскам. Выпадкі ўжывання аднаго і таго інфінітыва з націскам на корані і на канчатку ў пісьмовай мове сустракаюцца спарадычна, а ў вуснай — значна часцей. Пры гэтым адзін з дублетаў выразна ўспрымаецца як норма літаратурнай мовы, а другі — як рэгіяналізм або русізм.

Яўгенія Міхайлаўна Івашуціч лічыць, што форма *ажыццёвім* больш мілагучная, гучыць больш натуральна, па-беларуску. Але ж журналісты і дыктары радыё ды тэлебачання робяць акцэнты паводле зрусіфікаванага акадэмічнага слоўніка.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Традыцыйны і мадэрнісцкі светапогляды цесна перапляліся ў творчасці выдатнага паэта, вялікага патрыёта роднай яму Ірландыі Уільяма Батлера Ейтса (1865—1939).

*Уільям БАТЛЕР ЕЙТС*

### СМУТАК КАХАННЯ

Смутак і жаль невымоўны
Ў сэрцы кахання жыве:
Люд, свайго клопату поўны,
Хмарка, што ў небе плыве,
Гай, рэчкі шэрыя воды,
Вецер, што сцюдзіць зямлю,—
Гэта пагроза заўсёды
Дзеўчыне, што я люблю.

### КАЛІ ТЫ ПАСТАРЭЕШ...

Калі ты пастарэеш, ля агню,
Сівая, сонная, ў руку вазьмі й чытай
Вось гэту кніжку — і тады ўзгадай
Сваіх вачэй былую глыбіню...

Хто шчыра, а хто не — любіла шмат
Цябе за ўспышкі боскае красы.
Але адзін любіў ва ўсе часы
Тваёй душы-самотніцы пагляд.

І ты агню журботна прашапчы,
Што вось, Каханне вымкнула да гор
Далёкіх, сініх; у натоўпе зор
Свой твар хаваючы сярод начы.

### ДРУГІ ПРЫХОД

Шырэйшыя ўжо робячы кругі,
Лаўца не чуе сокал паляўнічы.
Аслаблі повязі; няма і стрыжня;
Запанавала на зямлі бязладдзе;
Патокамі паўсюдна кроў сплывае —
І цноце ўжо не выбрацца з яе.
Сумленнасць нерашучая, а ліха
Дужэе ўсё, ідзе рашуча ў наступ.
Відаць, час Адкрыцця й Расплаты
блізка —
Другі прыход чакаецца! З тых слоў
Мае ўяўленне вобраз, Дух Сусвету,
Стварае: недзе, у пясках пустэльні
Пачвара — ці то леў, ці чалавек
З пустым, бязлітасным, як скварр,
паглядам —
Ідзе-брыдзе павольна, а навокал
Кружляюць птахаў узлаваных цені...
Зноў цёмна робіцца, ды мне вядома,
Што дваццаць апавітых сном
стагоддзяў
Калыска ўскалыхала да кашмару;
І нейкі звер — наспеў ягоны час! —
У Бэтлеем ідзе, каб нарадзіцца...

**Пераклад з англійскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

*Чыталі?*

# Нам засталася спадчына

Добрую справу робіць акадэмічнае выдавецтва «Навука і тэхніка», ужо шосты год выпускаючы ў свет кнігі серыі «Нашы славутыя землякі». Нагадаем, што за гэты перыяд у серыі з друку выйшла 16 кніг, якія даходліва і займальна знаёмяць шырокую чытацкую аўдыторыю з нашымі выдатнымі суайчыннікамі — раней вядомымі, а зараз забытымі людзьмі, што зрабілі вялікі ўклад у развіццё навукі, культуры ці вызначыліся ў якасці знакамітых дзяржаўных, грамадскіх і вайсковых беларускіх дзеячаў. Чытачы ўжо атрымалі гістарычныя партрэты Ефрасінні Полацкай і Льва Сапегі, Канстанціна Астрожскага і Тадэвуша Касцюшкі, Алеся Гаруна і Уладзіслава Сыракомлі, некаторых іншых нашых славутых землякоў, памяць аб якіх павінна свята шанавацца ў кожнай беларускай хаце. Аўтарамі гэтых навукова-папулярных выданняў, якія, да слова, не залежваюцца на паліцах кнігарняў, з'яўляюцца пісьменнікі і навукоўцы з вельмі высокім творчым і прафесійным аўтарытэтам: Уладзімір Арлоў, Генадзь Каханоўскі, Уладзімір Казбярук, Язэп Юхо, Генадзь Сагановіч, іншыя даследчыкі, чые прозвішчы добра ведаюць у рэспубліцы.

Адзначым, што галоўнае прызначэнне згаданай серыі — садзейнічаць вяртанню беларусам іх страчанай гістарычнай памяці. Усе папярэднія кніжкі такую задачу паспяхова выконвалі. І апошняя кніжка серыі «У пошуках гармоніі Сусвету» Вольгі Гапоненкі, якая нядаўна выдадзена, у гэтым сэнсе — не выключэнне. Яна прысвечана таленавітаму вучонаму-фізіку, ураджэнцу Віцебшчыны Івану Яркоўскаму (1844—1902). Наш зямляк у рамках прапанаванай ім «кінетычнай тэорыі» вывучаў многія надзвычай складаныя тэарэтычныя навуковыя пытанні (падзельнасць атамаў, перыядычнасць уласцівасцей элементаў, іх узаемаператварэнні, зямны магнетызм і гравітацыя, вулканічная дзейнасць і інш.). Іван Яркоўскі шмат зрабіў таксама і для развіцця практычнай інжынернай думкі. Многае з яго творчай спадчыны не страціла сваёй актуальнасці нават сёння. У гэтым лёгка пераканаюцца чытачы пасля знаёмства са згаданай кнігай Вольгі Гапоненкі.

Вяртанню беларусам гістарычнай памяці будзе служыць і кніжка Ігната Абдзіраловіча «Адвечным шляхам» (даследзіны беларускага светапогляду), якая ў канцы леташняга снежня выпушчана выдавецтвам «Навука і тэхніка» ў серыі «Згукі мінуўшчыны». Упершыню гэта кніжка ўбачыла свет у Вільні ў 1921 годзе, у БССР яе прачытаць было амаль немагчыма. Прадмову да кніжкі напісаў рэдактар віленскай «Нашай нівы» Сяргей Дубавец. «Гісторыя,— падкрэслівае аўтар прадмовы,— вызначыла гэтай кнізе адмысловы лёс — быць прачытанай у наступным, XXI стагоддзі. Магчыма, гэта першая беларуская кніга, якая ўжо ТАМ». І. Абдзіраловіч разглядае і аналізуе праблемы спецыфічнага лёсу беларускай нацыі, прыходзячы да высновы, што найгалоўнейшая адметнасць беларусаў абумоўлена найперш тым, што яны жылі і жывуць на мяжы паміж Захадам і Усходам. Якраз гэтая акалічнасць гістарычна сфарміравала светапогляд беларусаў як асобнага этнасу. Не выклікае сумненняў, што «Адвечным шляхам» І. Абдзіраловіча з'явіцца значным дасягненнем нацыянальнай філасофскай думкі. Кніга, бясспрэчна, будзе цікавай для сённяшняга чытача, хоць для глыбіннага асэнсавання яе патрабуецца адпаведная падрыхтоўка.

Усе, каму не абыякавы лёс беларускай нацыянальнай культуры, матчынай мовы, не павінны абысці ўвагай і кнігу вядомага даследчыка, доктара гістарычных навук Леаніда Лыча «Рэформа беларускага правапісу 1933 года: ідэалагічны аспект», якая выдадзена «Навукай і тэхнікай» на сродкі ТБМ імя Ф. Скарыны. Асноўная думка аўтара: гэта рэформа — уступка русіфікацыі па разгалінаваных накірунках, ажыццёўленая ў рэчышчы палітыкі бальшавікоў, накіраваный на зліццё моў і нацый.

У канцы сваёй кніжкі Л. Лыч слушна піша: «Сучаснае пакаленне беларускай інтэлігенцыі... павінна прыкласці ўсе намаганні для таго, каб наша мова перастала быць калькай з рускай і каб па гэтай прычыне беларусаў не называлі рускімі ды толькі з нейкім мясцовым дыялектам. Даведзенае (рэформай 1933 г.— М.В.) да крайнасці падабенства беларускай мовы да рускай заўсёды будзе даваць падставы розным групоўкам вялікарускага дзяржаўнага шавінізму разглядаць наш край як... спрадвечна рускі і весці прапаганду сярод людзей за яго ўключэнне ў склад Расійскай федэрацыі накшталт колішняга Паўночна-Заходняга краю, робячы ўпор на блізкасць моў». Такім чынам, кніга мае на мэце вярнуць беларусам іх бясцэнны гістарычны скарб — роднае слова.

Дададзім, што ўсе гэтыя кніжкі ўжо паступілі ў кнігарні рэспублікі і кіёскі ТБМ імя Ф. Скарыны. Кошт іх даступны.

Мар'ян ВІЖ.

*Меркаванні*

# Галоўнае — не парушаць законаў мовы

Пазнаёміўся ў № 1 «Нашага слова» за гэты год з лістом сп. М. Валько і з адказам рэдакцыі. З апошнім у галоўных момантах згодны, а вось адно выказванне сп. Валько мяне засмуціла і непрыемна ўразіла. Ён піша: «...гэта (імкненне да чысціні мовы.— В. Н.) неабходна рабіць так, каб не ўжываліся словы малавядомыя ці дыялектныя».

Не, не і яшчэ раз не! Папершае, тут парушана элементарная логіка: кожнае новае слова напачатку бывае «малавядомае». Адмовіцца ад «малавядомых» новых слоў, значыць цалкам спыніць развіццё мовы. Проста трэба, каб усё рабілася памяркоўна, у меру, без парушэння законаў мовы. Магчыма, што тут спатрэбіцца і нейкая дзяржаўная служба лінгвістычнага кантролю. Дарэчы, нешта падобнае існуе ў Францыі.

Па-другое. Нельга так ставіцца да дыялектызмаў. На мой погляд, стэрэатыпы пагардлівых адносін да дыялектызмаў вельмі шкодныя для мовы ў цэлым і для літаратурнай мовы — у прыватнасці. Развітыя мовы зусім не баяцца дыялектызмаў і вельмі часта іх ужываюць. Нашая мова таксама дастаткова развітая для гэтага: ужо прайшоў той перыяд, калі мы баяліся «расцягнуць» мову па дыялектных гаворках. Я кажу пра сапраўдныя дыялектызмы, якія стагоддзямі ці, прынамсі, многімі дзесяцігоддзямі выпрабоўваліся мовай, а не пра запазычанні ў суседзяў. Апошняе, безумоўна, можа быць страшэнна шкодным для мовы з-за свайго асімілятарскага ўздзеяння. Зноў жа — патрэбны лінгвістычны кантроль.

Вось прыклад дыялектызма, ад якога міла сэрцу. Слова «табурэт» нічога не кажа беларусу. Хаця ўсе яго ўжываюць і разумеюць. Слова «зэдлік» прыгажэйшае, але таксама чужакаватае. А вось прыгожае і зусім сваё слова — «стаўчык», якое азначае той жа «табурэт». Прынамсі, я быў бы рады, каб гэтае слова паступова стала нормаю. Для паступовасці ў літаратурным унармаванні мовы ёсць мноства метадаў. За мовою трэба не толькі наглядаць, але і даглядаць яе. І тады праз нейкіх дзесяць — дваццаць год слова з паметаю «дыял.» ці «абл.» у тлумачальным слоўніку пазбавіцца такіх памет.

Мне могуць запярэчыць: кіраваць моваю ўжо спрабавалі ды ледзь не знішчылі.

Шаноўныя! Рэч не аб тым, што кіравалі, а аб тым, як кіравалі. Без нагляду і догляду мове нашай паўстаць у лепшым выпадку многія дзесяцігоддзі. Трэба ж — хутчэй.

Блізкія аргументы ў абарону «дыялектызмаў» хацелася б выкласці не толькі пра лексічны ўзровень, а і пра марфалагічны ды фанетычны. Толькі гэта ўжо іншая тэма.

**В. НАВУМЕНКА,**
сябра Рэспубліканскай рады ТБМ.

*МАМА, ПАЧЫТАЙ!*

*Станіслаў ВАЛОДЗЬКА*

### Дожджык-майстра

Тата ўранку луг касіў.
Я ваду яму насіў.
А калі сышла раса,
Прытупілася каса.
Раптам дожджык
Тут як тут.
Па касе ён:
Тук-тук-тук!
Калі дожджык
Знік з вачэй,
Тату зноў
Касіць лягчэй.
Ну і дожджык
Зухаваты
Пакляпаў касу ён
Тату!





### Баба-ёжка

— Наш Алежка ўжо у ложку,—
Больш не стукай, баба-ёжка!
Ты лепш вулкі падмяці
І у лес сабе ляці!

# ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ




# НАША СЛОВА

***«Наша слова» — пастаянна дзеючая трыбуна руплівцаў беларушчыны***

**Калі выпішаце «Наша слова», Вы атрымаеце магчымасць штотыдзень знаёміцца з экспрэс-аналізам падзей нацыянальнага жыцця Беларусі і свету**

**Падтрымліваць сувязь з лепшымі знаўцамі мовы і гісторыі і карыстацца іх парадамі**

**Чытаць успаміны дзеячаў культуры, згадкі, архіўныя знаходкі**

**Разнастайныя паведамленні пра беларускае замежжа**

**Агляды рэгіянальных выданняў ТБМ**

**Пераклад вострасюжэтнай прозы лепшых майстроў слова**

**Кніжныя навіны. Размоўнікі. Радавод. Народную лякарню. Гумарэскі. Эпіграмы і інш.**

***І гэта ўсяго за 150 руб. у месяц ці 450 руб. за квартал***

***Продаж у розніцу вельмі абмежаваны. ІНДЭКС для падпіскі 63865.***

Супрацоўнікі і рэдкалегія «Нашага слова» звяртаюцца да ўсіх сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны і нашых актыўных аўтараў размножыць і размясціць рэкламу «Нашага слова» на відных месцах і наогул паспрыяць падпісцы.

## *Мастак усміхаецца*





## *Афарызмы*

*Паўле КОВАЧАВІЧ*

Правадыры пралетарыяў усіх краін, яднайцеся!

Свабода слова... Дык гэта ж абсалютны кантроль думак.

Калі мы над прорваю, чуем, як нас пераконваюць, што мы на зайздросным узроўні.

Перадавыя ідэі — шкодныя, таму што не адпавядаюць цяперашнім умовам.

*Станіслаў ВІНАВЕР*

Колькі ліха ўчынілі мы людзям безабаронным! Напрыклад, самім сабе будучым.

Чалавек — такое слабое стварэнне, што мусіць усё перажыць. Таму я не веру ў смерць.

Маса толькі тады мае правы, калі прызнае, што не мае правоў.

Няма межаў абмежаванасці.

Наша мастацтва — не мастацтва. Гэта н а ш а мастацтва.

Паэзія стала зборам прыгод слоў. Словы ўчыняюць подзвігі, на якія іх аўтары не маюць магчымасцей.

З сербскахарвацкай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.

## *Пародыі*

*Георгій ЮРЧАНКА*

### Нібы грыбы

*Тры сасонкі — бор мой бедны.*
*Я між іх, як баравік...*

**Алег Салтук**

Вось і ў лесе мы: асіны,
Клён, сасна, сspляценне лоз,
Елка, вяз без верхавіны,
Бэз, арэшнік, вербалоз.

У кустоўі шолах ціхі.
Паўзірайся: хто там, хто?
Салавей да салаўіхі
Шле спаважлівых сватоў.

За настpуненаю сцежкай
Дуб развесіў свой шацёр.
Ты са мной, як сыраежка,
Я з табой, што мухамор.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**16 ЛЮТАГА, СЕРАДА**

**19.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Токшоу з удзелам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі М. Фінберга.**
**21.00. Панарама.**

**17 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР**

**12.55. Зямлі маёй паданні. Пастаноўка паводле беларускага фальклору.**
**16.10. Тэлебачанне — школе. Развіццё культуры Беларусі ў 20-я гады XX стагоддзя.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.15. Актуальнае інтэрв'ю. Пазіцыя ўрада.**
**21.00. Панарама.**

**18 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА**

**10.50. «Рок супраць рэвалюцый». Канцэрт беларускіх гуртоў.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.45. Памяці Алеся Адамовіча.**
**21.00. Панарама.**

**19 ЛЮТАГА, СУБОТА**

**10.00. Паказвае Віцебск. «Непрэстыжная пасада».**
**13.00. ТА «Рэха».**
**18.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**

**20 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ**

**11.35. На крылах кажана. Пазнавальна-забаўляльная праграма для школьнікаў.**
**15.50. Край. Князёўна Барбара Радзівіл — каралева Польшчы.**
**20.00. Панарама.**
**21.20. «Пераход». Мастацкі фільм.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 61.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 8954 паасобнікі

Падпісана ў друк 14.02.1994 г. у 15 гадзін.